 



Жыве Беларусь!

# ПАГОНЯ

Грамадзка-палітычная газэта

Заснавана ў 1920 г.

№ 11 6—18 лістапада 1992 года

Кошт 1 рубель

## ЗВАРОТ
### ГАРАДЗЕНСКАЙ РАДЫ БСДГ

**Непрыняцьце 29 кастрычніка гэтага года Вярхоўным Саветам Беларусі пастановы аб правядзеньні згодна з законам рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах азначае:**

**— невыкананьне закона;**

**— непавагу да 440 тысячаў грамадзянаў Беларусі;**

**— парушэньне агульнапрызнаных у цывілізаваным сьвеце і гарантаваных Канстытуцыяй Беларусі правоў грамадзян на ўдзел у кіраваньні дзяржавай;**

**— захаваньне на неакрэсьлены доўгі час нялюдзкай камуністычнай сістэмы на Беларусі;**

**— пазбаўленьне народа надзеі на паляпшэньне ўмоў жыцьця;**

**— гамаваньне будаўніцтва беларускай дзяржаўнасьці і працэсу Беларускага Адраджэньня;**

**— працяг раскраданьня агульнанароднай маёмасьці;**

**— разбурэньне аўтарытэту беларускай дзяржавы;**

**— умацаваньне антыбеларускай накіраванасьці вярхоўнага органа улады;**

**— страту легітымнасьці, г. зн. законнасьці гэтага Вярхоўнага Савета.**

**Наколькі ж трэба баяцца свайго народа, каб не прыняць рашэньне хаця б аб кансультатыўным характары рэфэрэндуму!**

**Такім чынам, гэтае рашэньне Вярхоўнага Савета сьведчыць, што гэта чарговы кастрычніцкі камуністычны пераварот.**

**Гарадзенская Рада БСДГ выказвае ўпэўненасьць, што абурэньне грамадзянаў процізаконнымі дзеяньнямі гэтага Вярхоўнага Савета прыме актыўныя і законныя формы.**

**29.X.92. Гарадзенская Рада БСДГ.**



2 лістапада. Дзяды. Ля магілы Марыі Мякоты, маці Максіма Багдановіча. Фота А. УЛАДАСЕВІЧА.

## У ЗША— НОВЫ ПРЭЗІДЭНТ

*Танчаць на вуліцах Багдада шчасьлівыя Іракцы. «Імпэрыялістычны крымінальнік» Буш ляснуў! Як ні дзіва, у добрым гуморы таксама ізраільцяне. Засмучаны японцы і французы. 42-м амэрыканскім прэзыдэнтам стаў 46-гадовы Біл Клінтан... А што ж мы, беларусы,— цешыцца нам ці засмучацца? Вядома, прыемна было часам прачытаць у эмігранцкім друку прэзыдэнцкае віншаваньне з нагоды чарговых угодкаў БНР, да якога абавязкова далучалася жонка Буша сп. Барбара. Але гэта звычайная традыцыя: ветласьць і ўвага. Будуць новыя ўгодкі і віншаваньні. Прэзідэнцкая канцылярыя працуе спраўна. Яшчэ раз, аднак, усьведамляеш: нас заўважаць, калі мы заміж свайго бляяньня набудзем сапраўдны голас. Шанц ёсьць. Пацыфісту Клінтану мы можам спадабацца.*

**С. А.**

*Рэфлексіі*

## ЗАЯВА НА БРУДЭРШАФТ

Напрыканцы лета паявіліся чуткі аб тым, што кіраўніцтва Беларускай Каталіцкай Грамады мае падаць у суд на галоўную ўправу Саюза Палякаў Беларусі. Навіна выглядала цалкам абгрунтавана, а злашча таму, што БКГ не ўступіла ў спрэчкі з СПБ на старонках прэсы. Рэч у тым, што на пачатку лета кіраўнікі Саюзу выступілі з афіцыйнай заявай, у якой абвінавачвалі БКГ у беларускім шавінізме і вельмі ратавалі за тое, каб блізка не пушчаць беларускую мову ў касьцёл. Напісанае мела характар абразьлівага пасквіля й выглядала зусім ня сьмешным, бо ягоныя аўтары накіравалі яго ў пракуратуту Рэспублікі зь вельмі пэўным намерам.

Справа аднак скончылася палюбоўна. Прынята супольная рэзалюцыя прадстаўнікоў БКГ і управы СПБ, у якой гаворыцца, цытуем: «Разгледзеўшы заяву СПБ «Не туды дарога», надрукаваную ў газэце «Глос з-над Нёмна», у якой БКГ і яе кіраўніцтву ставіцца ў віну шавіністычная, антыкаталіцкая і антыпольская дзейнасьць, абодва бакі паразумеліся ў наступных справах: 1. Заява СПБ адносна БКГ ёсьць памылковай і не адпавядае рэчаіснасьці». Далей надрукаваны ўсякія падрабязнасьці. Напрыклад, прызнана права ўжывацца ў сьвятынях ня толькі польскай, але й беларускай мовы. Шчыры дзякуй! Ураду прапануецца вярнуць вернікам усю касьцёльную маёмасьць. Крыху наіўна. Нават у Польшчы вернута далёка ня ўсё. Прапанавана таксама павялічыць колькасьць ксяндзоў-місіянэраў.

Ува ўсёй гэтай гісторыі можна вылучыць некалькі акалічнасьцяў. Першае. Змагацца з рэлігійна-грамадзкай арганізацыяй узялася арганізацыя грамадзка-культурніцкая. Кіраўніцтва касьцёлу засталося ўбаку. Было толькі прыватна выказана зьдзіўленьне гэткай апантанасьцю, ня ўзгодненымі з касьцёлам рашучымі дзеямі. Далей. Кіраўніцтва СПБ накіравала свой опус Старшыні Вярхоўнага Савету і Гэнеральнаму Пракурору. Заставалася яшчэ толькі зьвярнуцца па дапамогу да старшыні КДБ... Кіраўніцтва БКГ адказала ўсяго толькі «Адкрытым лістом» іхнім эксцэленцыям архібіскупу К. Сьвёнтаку і біскупу А. Кашкевічу. Беларуская ўсьмешка ў адказ на хамства і пагрозы. Апошняе. Прадстаўнікі нацменшасьці імкнуліся паставіць ва ўмовы меншасьці нацбольшасьць. Як казаў Ленін ці Сувораў, ці шахматыст Алёхін, сто гадоў каторага мы справілі днямі: «Лепшая абарона — наступ». Але ж мы ня ў шахматы гуляем і вайны ў нас, дзякуй Богу, няма. Дык давайце ж надалей спачатку падумаем, а потым скажам, а не наадварот. До відзэня, пшыяцеле. Цала пшыемношьць по моей строне...

**У. В-ч.**

## ЛЯ САМАГА БАЛТЫЙСКАГА МОРА

***Калі вы надумалі раптам паехаць у Рыгу, дык не давайце веры, што латвійскі рубель нібы мае курс адносна савецкага як 0,7/1. Ува ўсіх абменных пунктах ён займае ў сьпісах валют апошні радок і каштуе паўсюдна аднолькава: за 100 савецкіх — 45 латвійскіх. Каля папярэдніх касаў чыгуначнага вакзала можна выгадаць на кожнай сотні «акупацыйных» яшчэ пяць мясцовых рублёў. Калі ўлічыць, што аўтобусны квіток з Горадні да Рыгі й назад каштуе аднолькава 600 рублёў, але адтуль трэба плаціць латвійскімі, дык зваротны праезд абыходзіцца прынамсі ўдвая даражэй.***

***Лепей таму ехаць у Рыгу не з савецкімі грашыма, а хоць бы з далярамі, бо за адзін даюць 170—175 латвійскіх рублёў. Тым жа часам у Летуве даляр купляюць за 240 «талёнаў» — мясцовых грошай, а прадаюць за 247, а савецкі рубель — адпаведна: 0.60 і 1.00. Эстонскі банк купляе даляры па 11.87 эстонскай кроны за кожны. У гэтай краіне валюта толькі скупляецца і зусім не прадаецца. Савецкія рублі там не бяруць наогул.***

***І яшчэ некалькі прыкладаў з цэнамі. 76-ы бэнзін каштуе ў Латвіі 50—60 латвійскіх рублёў, а 93-і адпаведна 60—70. А вось рэстаранныя цэны. Салата з курыным мясам — 48 латв. рублёў, біфштэкс — 126, а фірмовы — «Рыга» — 157, порцыя сьвінога мяса — 172. Запіць стравы можна белым сухім віном (бутэлька — 200 рублёў), на дэсэрт — печанка (15 рубл.) і кубак чорнай кавы (12 руб.). Шчасьлівага падарожжа!***

**К. ЯКУБОЎСКІ.**

# САТЫСФАКЦЫЯ
## ПАСЕДЖАНЬНЕ АПОШНЯЕ

**У адным з мінулых нумароў «Пагоня» паведамляла аб ходзе судовай справы ў Кастрычніцкім нарсудзе Горадні. Нагадаю, што ў суд абараняць свае правы грамадзян зьвярнуліся двох судзьдзяў і адвакат. У ролі адказчыка выступіла газэта «Гродненские новости».**

Працяг суда пачаўся з таго, што адвакат Гушчын зрабіў заяву аб павелічэньні спазыску да 150 тысяч рублёў, каб ураўняць суму той, якую выставілі на мінулым паседжаньні абодва судзьдзі. Аднак і судзьдзі зьмянілі свой намер, давёўшы спазыск да 250 тысяч на кожнага. Пры гэтым абодва дадалі, што калі выйграюць гэту справу, то грошы пералічаць на рахунак асацыяцыі судзьдзяў Рэспублікі Беларусь.

У судовай зале было студзёна, яшчэ не падключалі ацяпленьне. Сумныя народныя заседачы маўкліва гарталі газэты, у сакратаркі мерзьлі рукі, я зашпіліў замок у куртцы да самага верху і глядзеў, як ад холаду трэсла адказчыка. Час ад часу ў залу заглядалі выпадковыя людзі, напэўна шукалі патрэбны габінэт.

Судзьдзя ў каторы раз прапаноўваў скончыць гэту справу мірам, аднак адказчык умоў не прыняў. У сваю абарону паведаміў суду, што ў сваім артыкуле ўжыў паняцьце «мафія», якое не мае характару сцьвярджэньня, акрамя таго, ў юрыдычным кодэксе яно ўвогуле адсутнічае. А матэрыял быў накіраваны перш за ўсё на тое, каб абараніць грамадзянку Данільчык, якую зацёгалі па судах і якая па дапамогу зьвярнулася да журналістаў. Апроч вуснага аповяду жанчына мела копіі рашэньняў суда, розныя квітанцыі і даведкі, што і скарыстаў у сваім артыкуле аўтар. Дарэчы, прозьвішчы судзьдзяў выкарыстаў таму, што менавіта яны былі падпісаны пад рашэньнямі, якія мела Данільчык.

Па праўдзе, на судзе я так і не ўцяміў, ці зразумеў мой калега, калі яму тлумачыў судзьдзя, што ўсе гэтыя даведкі, копіі рашэньняў ня маюць юрыдычнай моцы, выкарыстоўваючы іх для артыкула, прычым не спраўдзіўшы з арыгіналам, ён папросту ня меў рацыі. Акрамя таго, гэта былі копіі ня ўсіх рашэньняў, якія датычылі справы Данільчык. І больш таго, пані Данільчык вельмі суб'ектыўна падвяла журналісту свой аповяд пад гэтыя рашэньні. Гэтая думка прыйшла да мяне пад час суда. Асабліва тады, калі пані Данільчык, выкліканая ў якасьці сьведкі, ніяк не магла пагадзіцца з дакумэнтамі суда, выказваючы па сутнасьці толькі свае эмоцыі.

Пазьней, у прыватнай гутарцы, мне падалося, што калега ўрэшце ўцяміў, што ўсё ж зрабіў нейкія хібы. Хоць, вядома, ня буду сьцьвярджаць гэтага пэўна, бо цалкам магчыма, што памыляюся. Аднак сам я пасьля суда цікавіўся храналёгіяй падзей, аб якіх з аповяду Данільчык пісаў Даўгела. Адзінае, ў чым яшчэ раз пераканаўся, што простых судовых спраў не бывае, як не бывае ўвогуле простага жыцьця, і наўрад ці такія ісьціны магчыма аспрэчваць.

Больш упэўнена выступіў у судзе другі сьведка Даўгелы — намесьнік рэдактара «Гродненских новостей» В. Дзьмітрыеў, прывёўшы напачатку словы клясіка: «Странное происходит дело: назови одного дураком, все другие себя считают дураками». Намесьнік рэдактара таксама спаслаўся на папку з дакумэнтамі, што прынесла Данільчык і пасьля азнаямленьня зь якімі ў рэдакцыі перад падрыхтоўкай артыкула не ўзьнікла патрэбы знаёміцца з матэрыяламі судовай справы, а таксама з судзьдзямі. Урэшце ён заўважыў: «Мы вторглись в ту сферу, которая не привычна». А на пытаньне адваката Гушчына, якія газэта мае довады, каб сьцьвярджаць, што ён узначальвае мафію, намесьнік яшчэ раз падкрэсьліў, што артыкул зразумелі няправільна і ніякіх падобных дакумэнтаў у рэдакцыі не існуе.

Дапытлівы адвакат спрабаваў дабіцца ад намесьніка, чаму ягоны ліст, які ён даслаў у рэдакцыю, надрукаваны ў газэце замест абвяржэньня і тым больш безь яго згоды. На што атрымаў адказ, што нейкага пэўнага шаблёну для абвержаньняў увогуле не існуе, да таго ж і прыпісак аб тым, каб яго не друкаваць, у лісьце не было.

... Прызнаюся, напачатку, калі я толькі зьбіраўся на суд, мне падалося, што справа гэта абавязкова будзе сэнсацыйнай. І перш за ўсё таму, што прэса апошнім часам адчувае значны ціск з розных бакоў. Апошняя сэсія Вярхоўнага савета Рэспублікі Беларусь яшчэ раз гэта пацьвердзіла, калі правыя дэпутаты хацелі вынесьці асобным пунктам пытаньне аб «Народнай газэце». Але ж тут, як паказаў суд, сітуацыя іншая. Як бы мне не хацелася бараніць новую дэмакратычную прэсу, але пісаць артыкул, не адкрываючы судовых матэрыялаў, выслухаўшы толькі эмоцыі пані, нельга.

Дарэчы сказаць, касацыйнай скаргі «Гродненские новости» не падалі. Аднак, бадай самым незразумелым засталося для мяне тое, што прафэсійныя юрысты, наперад ведаючы, што можа здарыцца з газэтай, калі ёй давядзецца плаціць такі штраф, узьнялі суму яшчэ вышэй...

Пры вызначэньні памераў маральнай шкоды суд зыходзіў з таго, што адказчыкі сваёй публікацыяй закранулі гонар і годнасьць Э. Друца і І. Грышкевіча, якія па абавязку сваёй пасады зьдзяйсьняюць правасудзьдзе ад імя Рэспублікі Беларусь, а ў адносінах да І. Гушчына закрануты не толькі гонар і годнасьць як юрыста, але і як вучонага, які займаецца пэдагагічнай дзейнасьцю. З Л. Даўгелы на карысьць спазыстчыкаў вырашана зыскаць па 20 000 рублёў кожнаму, а з рэдакцыі газэты на карысьць І. Гушчына — 130 000 рублёў, а Э. Друца і І. Грышкевічу па 230 000 рублёў. Акрамя таго, з Даўгелы спагнаць у Дзяржпрыбытак грашовы падатак у суме 6000 рублёў. А з газэты — 46 000.

Да ўсяго суд абавязаў Л. Даўгелу і «Гродненские новости» абвергнуць праз газэту зьвесткі, якія закранулі гонар і годнасьць спазыстчыкаў, а таксама прынесьці ім прабачэньне на працягу аднаго месяца.

У сваім заключным слове стомлены адказчык паведаміў, што сума гэта зусім безсэнсоўная, таму што грошай такіх у рэдакцыі няма. І нават адзіны тэлефонны апарат, якім карыстаюцца журналісты, прынесла з хаты сакратарка.

...Напярэдадні суда выпадкова на вуліцы я сустрэўся з калегамі з «Гродненских новостей». Яны тады пасьмяяліся, гаворачы, што надалей у рынкавых адносінах «Пагоня» ня мае ніякай пэрспэктывы, а, маўляў, іх газэта будзе жыць. На гэта я нічога не мог ім адказаць. А назаўтра адбыўся суд.

**М. КАРНЕВІЧ.**

 

# НЕЗРАЗУМЕЛАЯ ЛЬГОТА

За нядзелю да пачатку кастрычніка была прынята пастанова Савета Міністраў РБ № 578 ад 23 верасьня бягучага года, каторая ў сувязі са сьвятам пажылых людзей прадугледжвала ільготу на бясплатны праезд пасажырскім транспартам агульнага карыстаньня. Ільготамі павінны карыстацца мужчыны ў веку 60 год, а жанчыны — 55 гадоў. Мясцовым уладам засталося за нядзелю ўсё зрабіць, каб пастанову прывесьці ў дзеяньне і каб менш было непаразуменьняў. Хай людзі радуюцца і карыстаюцца на здароўе ільготамі, яны гэтага заслужылі сваёй сумленнай працай. Што, не было каму гэту работу зрабіць? Было. У райвыканкаме аж шэсьць намесьнікаў, а старшыня сёмы. Але атрымалася ўсё абы-як. Некалькі Скідэльскіх бабулек ў першы дзень сьвята і льгот задумалі праехаць на аўтобусе па маршруту Скідаль — Друскенікі. Запасьліся пашпартамі, зайшлі ў салён аўтобуса і ціхенька прыселі.

— А у вас білеты ёсьць? — спытаў шафёр.

— Для нас жа з сёньняшняга дня існуе льгота — ціха адказалі бабулькі.

— Са сваёй льготай можаце езьдзіць па Скідалю, ад аптэкі да аптэкі, а ў мяне каб ехаць, трэба плаціць,— строга адказаў шафёр. Так нам сказала начальства,— на міжгародні аўтобусе льгот няма.

— Так наш жа горад знаходзіцца ў Гродзенскім раёне, а мы за яго межы не выязджаем? — няпэўна адказалі састарэлые.

— Плаціце, а не, дык пакідайце аўтобус.

Бабулькам нічога не заставалася рабіць, як дастаць свае насоўкі і браць зь іх памятыя тройкі і пяцёркі, каб разьлічыцца за праезд. Гэта было ў першыя дні льгот. А вось што атрымалася на трынаццаты дзень пасьля прыняцьця пастановы. Жыхарка нашага горада Вера Восіпаўна Сытая ўздумала паехаць у раённы цэнтр Горадню. Спяшалася, трэба за дзень залатвіць ў раённых установах справы, дый асабістыя вырашыць. Прыйшла на аўтавакзал, яшчэ сямі ня было.

— Мне на аўтобус ў Горадню,— сказала бабулька і сунула пашпарт у маленькае акенца касірцы.

— Мне не пашпарт трэба, а грошы,— адказала касірка.

— Як грошы? Якія грошы? У мяне ж льгота?

— Таму што са Скідэля ў Горадню езьдзіць бясплатна аўтобусам нельга. Па горадзе можна, а ў Горадню трэба плаціць.

Вера Восіпаўна такім парадкам - вымушана была браць білет, вылажыць 15 рублёў са сваёй жабрацкай пэнсіі.

А далей падзеі разьвіваліся так. Хто ўзяў білет, а хто й не. Ня стала купляць яго і пэнсіянерка настаўніца Сакалінская.

— Раз існуе льгота, значыцца паеду без білета, хай штрафуюць,— сказала яна астатнім пасажырам.

Аўтобус, якога усе чакалі, спазьніўся. Пазакаўся іншы: Грамавічы — Гродна. Усе тады селі ў яго. Але раптам паяўляецца спозьнены, Азёрскі. Работнік аўтавакзала і гаворыць, што трэба ўсім льготнікам перасесьць ў Азёрскі, а Грамавіцкім ехаць нельга, бо ён міжгародні. Калі расьселіся ў Азёрскім, адна з пасажырак пытае: а чаму той аўтобус міжгародні, я такога горада Грамавічы ня чула? Гэта ня горад, а вёсачка за Каменкай, што ў Шчучынскім раёне,— адказала другая. А той, што хадзіў з Горадні ў вёску Лунна, таксама зрабілі міжгароднім, толькі прадоўжылі яму маршрут да вёскі Струга,што ў Мастоўскім раёне... Гэта не льгота, а зьдзек, гаварылі у гэты дзень састарэлыя пэнсіянеры. Яно й праўда.

Званю начальніку Скідальскага аўтапарка № 5 С. С. Іоськевічу і задаю пытаньне: чаму такая неразьбярыха, зьдзек зь людзей?

— Я хварэю і не магу адказаць канкрэтна. Вам лепей пазваніць майму падначаленаму, які адказвае за эксплуатацыю пасажырскага транспарту,— адказвае начальнік і называе мне нумар тэлефона.

Званю туды, адкуль на маё пытаньне адказвае адказны супрацоўнік так: пазваніце цераз 10—15 хвілін, пакуль я навяду даведку... Вось табе і маеш! За 13 дзён не разабраўся, а тут мае за 15 хвілін гэта зрабіць. Аж сьмешна стала. Ну, а састарэлым льготнікам — пэнсіянерам не да жартаў, ім карыстацца льготамі трэба. А як і калі? Гэтага адказны супрацоўнік ня ведае.

Цераз 15 хвілін званю. Зноў адказвае жанчына. Аказваецца, службовец ужо падаўся кудысьці. А мне перадаў: льготнікам-пэнсіянерам можна карыстацца гарадзкім і прагарадным аўтатранспартам...

У гэты ж дзень званю намесьніку старшыні райвыканкама В. Бірукову. «Так і так, Васіль Рыгоравіч,— гавару яму.— Вы начальнік раённага рангу і больш ведаеце. Удакладніце мне, калі ласка».

— Гэтым пытаньнем я не займаўся, праз тры дні адкажу...

Урэшце рэшт ўсё растлумачыў начальнік упраўленьня справамі аблвыканкама, пасьля таго зьвязаўся с адказнымі супрацоўнікамі Савета Міністраў РБ. Аказалася, што карыстацца агульным пасажырскім транспартам можна і нашым гараджанам ў межах адміністратыўнага раёна па месцы жыхарства. Карацей, па ўсім гарадзенскім раёне. Але каб высьветліць гэта, я патраціў два тыдні часу.

**І. БАРЫСАЎ,**
**член Савета вэтэранаў вайны і працы, Гарадзенскі раён.**



Гарадзенскі дворык. Фота А. УЛАДАСЕВІЧА.

# ВЫБАРЫ ПА-ЛЕТУВІСКУ: «ЛЕВЫЯ», «ПРАВЫЯ» І ПАЛЯКІ

Адбыліся парляманцкія выбары ў Летуве. Назіральнікі прадбачылі, што вострая барацьба разгорнецца паміж «САЮЗАМІ» і Дэмакратычнай Партыяй Працы Летувы альбо нацыянал-камуністамі. Але вынікаў не прадбачыў ніхто.

Стаўкай у гульні было 141 парляманцкае крэсла, пры гэтым 70 дэпутатаў выбіраліся па партыйных агульнакраёвых сьпісах, а 71 па тэрытарыяльных выбарчых агругах. У выніку большасьць месцаў атрымала... ДППЛ! Другі — «Саюзіс», трэйція сацыял-дэмакраты, дарэчы, патэнцыяльныя саюзьнікі ДППЛ. Асабліва пераканаўчай перамога «партыі А. Бразаўскаса» была ў выбарах па партыйных сьпісах: **ДППЛ — 35, сацыял-дэмакраты — 5, а разам 40 месцаў; «Саюдзіс» — 18, хрысьціянскія дэмакраты — 10, разам 28 месцаў! Астатнія два месцы здабыў Саюз палякаў на Літве**, палякі не пераадолелі мінімальны чатырохпрацэнтовы бар ́ер, трапілі ў парлямант толькі на падставе ільготы для нацменшасьцяў — гэта пры тым, што ў Летуве жыве 315 тысяч альбо дзевяць працэнтаў «афіцыйных» палякаў! Ніхто ад польскага клюбу ня выйграў выбары ў Вільні, на «правінцыі» здабыта таксама толькі адно месца...

Удзел у галасаваньні агулам прынялі толькі 22 працэнты палякаў, зь іх галасавалі на СПЛ усяго... 15 працэнтаў! Астатнія ж аддалі галасы ня толькі экс-камуністам, але нават упаўнаважаным афіцыйнага Вільнюса ў «Польскіх раёнах»! То як?! «Ешчэ Польска не згінэла... але згінонць мусе, большэвіцы не забілі, то глупота вдусе?..».

У інтэрв ́ю польскаму ТБ лідэры летувіскіх палякаў тлумачыліся па-рознаму. Старую лінію гнуў сп. Р. Мацейкянец: «... мы, палякі, павінны прымусіць улады адмовіцца ад шавінізму ды йсьці да Эўропы...». «Прымусіць», «змагацца» — старая песьня, і вынікі старыя. Больш цьвяроза выказаўся сп. Ч. Акінчыц: «Мы павінны пашукаць сабе сяброў сярод саміх летувісаў, мець сярод іх прапольскае лобі...».

Хоць нядаўні III зьезд СПЛ адхіліў ад кіраўніцтва экс-«прэзэса» Яна Сянкевіча, найбольш заядлага «аўтанаміста» і «адраджэнца», але адначасова ад СПЛ адыйшла і памяркоўная група польскай інтэлігэнцыі, якую ўзначальвае доктар Мядард Чобат, адзіны паляк, які быў сябрам Прэзыдыюму ВС Летувы пры Ландзбэргісе. Група М. Чобата падалася да Рэспубліканскай Партыі.

Але што ж пераможца, эксбудаўнік і экс-камуніст сп. А. Бразаускас? Той заявіў, што ня мае намеру браць на сваю партыю ўвесь урад і ўсю адказнасьць за край. На думку Бразаускаса, неабходна ўтварыць кааліцыйны ўрад, ставячы на першае месца прафэсыяналізм, а не партыйную прыналежнасьць. Яго апанент, экс-старшыня ВС і лідэр «Саюдзісу» В. Ландзбэргіс заявіў, што ён спадзяецца, што Летува ня зьбочыць са шляху да незалежнасьці. Што ж да прычынаў паражэньня, на думку В. Ландзбэргіса, тут адыграла ролю ня толькі цяжкае эканамічнае становішча Летувы, але й псіхалягічная стомленасьць людзей ад бурлівых падзеяў апошніх чатырох гадоў.

Застаецца дадаць, што нават у буйных местах «саюдзісы» заўважна перамаглі толькі ў Коўне, у Вільні становішча роўнае, а мястэчкі ды вёскі адназначна выказаліся за А. Бразаускаса. Як і можна было меркаваць, супрацьстаяньне йшло паміж лідэрамі, а не паміж партыямі, нават безумоўна падтрыманыя касьцёлам хрысьціянскія дэмакраты набралі намнога менш галасоў, чым разьлічвалі.

Нешта гэтая сытуацыя нагадвае. Нешта вельмі падобнае складаецца паступова й на Беларусі...

**А. ЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

# Аб «Дні народнага майстра» і не толькі...

Душа кожнага чалавека прагне радасьці, душэўнага камфорту і цеплыні. Менавіта таму добрыя традыцыі правядзеньня сьвятаў народнага майстэрства трывала ўвайшлі ў нашае жыцьцё. Ужо тры гады існуюць творчыя сувязі паміж вабласным навукова-мэтадычным цэнтрам народнай творчасьці, гарадзенскім гарадзкім аддзелам культуры і друскеніцкімі сябрамі. Дзякуючы агульным намаганьням, кожны год у верасьні-кастрычніку зьбіраюцца гарадзенскія і летувіскія майстры, каб адзначыць «дажынкі» — сьвята ўраджаю.

Раніцою трэцяга кастрычніка чырвоны «Ікарус» ад ́ехаў у бок летувіскай мяжы з сарака пяцьцю майстрамі і мастакамі з Горадні. Дзень гэты выдаўся сапраўды цудоўны — прыгожы друскінінкайскі парк зіхцеў пажоўклай лістотай, зазьвінеў сьвяточным шматгалосьсем. Вялікім гуртом акружылі аматары жывапісу нашых знакамітых гарадзенскіх мастакоў — А. Ліпеня, Л. Сеража, Г. Сьцяпанава, Н. Камісараву. Ад шматлікіх пэйзажаў разьбягаліся вочы, нават цяжка было вылучыць лепшыя творы. Вялікую ўвагу пакупнікоў выклікалі працы гарадзенскіх майстроў Л. Міхалёвай, В. Голуб, Я. Блудава, К. Валабуевай, Т. Макалавай, вырабленыя з лазы, саломы, скуры, гліны і іншых матэрыялаў. Густоўныя і вытанчаныя саламяныя кветкі навучыліся рабіць удзельнікі студыі в/а «Хімвалакно» пад кіраўніцтвам К. Валабуевай. Вельмі эстэтычная афарбоўка гэтых вырабаў выклікала ажыятажны попыт. Сапраўдны вір стварыўся каля твораў, зробленых майстрам-разьбяром Я. Блудавым, а таксама яго жонкай і дзецьмі. Кожны зь іх знайшоў ў народным рамястве сваё прызваньне. Тамара Блудава вельмі хутка і якасна шые сумкі і верхняе адзеньне з кавалкаў скуры, робіць жаночыя ўпрыгожваньні. Дачка Сьвятлана навучылася на вёсцы ў ткачыхі Шыдлоўскай рабіць сапраўдныя беларускія традыцыйныя пасы, а малодшы Алёша з захапленьнем пляце разнастайныя рэчы з саломкі.

Упершыню ў сьвяце прынялі ўдзел майстры Дома рамёстваў Гарадзенскага раёна. Яны прывезьлі свае цікавыя вырабы з розных матэрыялаў, ткацтва. Ніхто ня быў у той дзень пакрыўджаны, бо кожны набыў твор на свой густ — ці то саламяную кветку-прыгажуню, ці зграбны кошык з лазы, ці прывабны краявід. А самае, на мой погляд, галоўнае — ва ўсіх быў цудоўны настрой.

Канешне, вельмі добра, што нашыя майстры і мастакі прынялі ўдзел у сьвяце, пагандлявалі сваімі творамі, паслухалі і паглядзелі выступленьні фальклёрных калектываў з Дайновы — знакамітага краю казак і паданьняў. Але асабіста ў мяне на душы было сумна — прыгадалася зьянацку, як прыбягала да мяне сяброўка і пытала, ці будуць ладзіць у Горадні Дзень народнага майстра. На жаль, традыцыйнае сьвята гарадзенскіх майстроў з удзелам умельцаў з усяе рэспублікі ўпершыню за сем гадоў не адбылося. Зусім някепска, што мы пацешыліся самы і павесялілі сяброў-летувісаў, але зрабілася неяк шкада жыхароў роднага горада, бо яны сёлета не сьвяткавалі. Чаму ж так?

Як памятаюць штогадовыя наведвальнікі сьвята, яно заўсёды праводзілася на пляцоўцы музэя гісторыі рэлігіі. Супрацоўнікі музэя шмат зрабілі, каб наладзіць сувязі з майстрамі розных рэгіёнаў Беларусі, заўсёды вельмі гасцінна прымалі іх. Пазыўныя сьвята гучалі ў маскоўскіх праграмах «Время» і «Утро», па «Маяку», зразумела, па ўсёй рэспубліцы. Але сёньня, калі музэю ў скарочаны тэрмін трэба пераязджаць у невядома якім накірунку, пакінуўшы не так даўно адрэстаўраванае і добра прыстасаванае памяшканьне, то тут, зразумела, не да сьвятаў.

Падумалася і аб тым, што менавіта ў наш час трэба біць у званы аб экалёгіі культуры, бо зараз, калі ўсё навокал руйнуецца, ёй прыходзіцца асабліва цяжка. Прадстаўнікі ўлады, які ў папярэднія гады, ківаюць у бок эканомікі, маўляў, культура пачакае. Зусім нядаўна была прынята праграма «Адраджэньне», а што канкрэтна робіцца па ажыцьцяўленьню гэтай праграмы, асабліва ў дачыненьні да народнага мастацтва? Чаму такія прамысловыя гіганты, як «Азот», выкідваюць на вуліцу ўдзельнікаў студый выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва? Няўжо іх лёс павінны вырашаць толькі ўстановы культуры? Няўжо большасьць нашага грамадзтва ператварылася ў сапраўдных «зомбі», якім патрэбна толькі мас-культура — відзікі, аголеная натура на глянцавых каляндарах ды танныя рэпрадукцыі вядомых шэдэўраў? Ні ў адной цывілізаванай дзяржаве мастацтва і культура не існуюць па прынцыпу самаакупнасьці. Каб нешта атрымаць, трэба ўкласьці шмат намаганьняў і сродкаў. У наш час сьмешна разьлічваць толькі на энтузіязм работнікаў культуры і дзеячоў мастацтва. Трэба зразумець, што зьдзічэлае грамадзтва ніколі ня здолее стаць на ўзровень сусьветнай цывілізацыі.

**А. ХРАМКОВА,**
**мастацтвазнаўца.**

# ГАРАДЗЕНСКІ ГУБЭРНАТАР МУРАЎЁЎ-ВЕШАЛЬНІК

***На сваім вяку гарадзенская зямля ведала шмат знакамітых асобаў, імёны якіх увайшлі ў скрыжалі гісторыі. Сярод іх былі й каралі, славутыя ваяры й навукоўцы, праведнікі й злачынцы. Цяпер мы адмовіліся ад разуменьня гісторыі як механічнага працэсу. Менавіта чалавечая асоба зь яе моцнымі й слабымі рысамі зьяўляецца цэнтрам перасячэньня энергетычных палёў сацыяльнага быцьця й сапраўдным творцам гісторыі.***

Сёньня мы імкнёмся па-новаму пераацэньваць свой лёс і вызначаць каардынаты ўласнага адчуваньня й разуменьня мінулага. Гэта цяжкі і часамі пакутлівы працэс, але бязь яго немагчыма нацыянальнае адраджэньне. І спрэчкі аб тым, добра гэта ці дрэнна, ня маюць сэнсу. Бадай самае істотнае ў падобнай зьяве — пазьбегнуць палітызацыі, спрашчэньня, аднабокасьці, што непазьбежна на пачатку, але затым становіцца тормазам на шляху да ісьціны, якая, як вядома, ня мае вышэйшай інстанцыі. Вядома, больш задавальненьня атрымліваеш, калі разглядаеш славутыя пэрыяды ўласнай гісторыі, але ня менш важна зразумець і трагічныя, а таксама на першы погляд невыразныя, нецікавыя часы.

У гэтым сэнсе гісторыя XIX стагодзьдзя зьяўляецца вельмі важнай для разуменьня многіх нашых сёньняшніх праблемаў і супярэчнасьцей. Беларусь знаходзілася пад магутным ціскам вайскова-бюракратычнага апарату Расейкай імпэрыі, якая імкнулася зьнішчыць яе нацыянальныя асаблівасьці, бо асновай існаваньня любой імпэрыі зьяўляецца ўніфікацыя падуладнай тэрыторыі. Сапраўдным сымболем палітыкі царскага самаўладства на беларускіх землях стала імя графа Мікалая Мікалаевіча Мураўёва, або Мураўёва-вешальніка, які патапіў у крыві паўстаньне 1863 года на Беларусі і Літве і стаў фактычна хросным бацькам «западно-руссизма», ідэалягічнай і палітычнай дактрыны царызму, якая панавала на нашых землях да пачатку XX стагодзьдзя. Акрамя таго, граф узначальваў рэакцыйныя сілы, якія змагаліся супраць адмены прыгоннага права.

Мураўёў паходзіў са старажытнага расейскага дваранскага роду, карані якога вялі ў XV стагодзьдзе. Аднак трэба прызнаць, што гэта быў вельмі таленавіты чалавек. Ён ужо ў чатырнаццаць гадоў быў залічаны на фізіка-матэматычны факультэт Маскоўскага унівэрсітэту і арганізаваў гурток аматараў матэматыкі. У шаснаццаць гадоў Мураўёў удзельнічаў у вайне з Напалеонам і быў паранены ў бітве пры Барадзіне. Пасьля вайны ён стаў афіцэрам генштаба расейкага войска. І ў 1818 па 1821 гады ўдзельнічае ў дзейнасьці тайных афіцэрскіх суполак, нават складае статут «Союза благоденствия». Але потым ён адыходзіць ад «декабристского» руху, што аднак не выратавала яго ад арышту пасьля паўстаньня на Сэнацкай плошчы. Адсядзеўшы пяць месяцаў у петрапаўлаўскай крэпасьці за час сьледства Мураўёў, як толькі вызваліўся, кінуўся замольваць свае грахі і ўсё жыцьцё з падвоенай энергіяй падаўляў любыя праявы свабоды і вальнадумства, калі меў для таго сілу і ўладу.

Мураўёў упершыню трапіў на Беларусь у 1827 годзе, калі быў прызначаны віцебскім віцэ-губэрнатарам. У 1828 годзе ён ужо стаў магілёўскім губэрнатарам. А ў 1831 годзе, калі ў Польшчы, Літве і Беларусі пачалося паўстаньне супраць расейскага самаўладзтва, Мураўёў выконваў карныя функцыі пры штабе расейскага вайскова-га кіраўніцтва на Беларусі. 24 жніўня 1831 год ён атрымаў прызначэньне гутэрнатара ў Гародню.

У той час паўстаньне яшчэ працягвалася, і Мураўёў пачаў з таго, што сабраў у горадзе ўсю буйную шляхту і пасадзіў пад хатні арышт. Тады ён і атрымаў прозьвішча «вешальнік». Адбылося гэта наступным чынам. У час прадстаўленьня новага губэрнатара мясцоваму грамадзтву адзін са шляхціцаў спытаў суседа: «Ці не з тых Мураўёвых, якіх вешалі?» Справа ў тым, што пакараны сьмерцю дзекабрыстаў Мураўёў-Апостал быў сваяком губэрнатара. Мураўёў пачуў гэта і гучна адказаў: «Я з тых, каторыя вешаюць». І ён цалкам апраўдаў дадзенае яму прозьвішча. Так, у 1833 годзе па загаду губэрнатара ў Слоніме быў павешаны ваўкавыскі шляхціц Мікалай Валовіч. Разам зь ім былі пакараны Ян Анайскі, Мікола Фірэтка, Якаў Марцінковіч, Якаў Панасюк. Паўстанцы спрабавалі арганізаваць замах на жыцьцё губэрнатара. Нехта Шыманскі хацеў падцікаваць карэту, але быў схоплены паліцыяй.

Паўстаньне неўзабаве было падаўлена царскімі войскамі. Яно ня мела вялікіх шанцаў на посьпех. Мясцовае палянізаванае дваранства кіравалася ідэямі аднаўленьня Рэчы Паспалітай і не карысталася падтрымкай простага люду, для якога гэтыя ідэі былі чужымі. Мураўёў адразу зразумеў гэта і нават спрабаваў арганізаваць з сялян баявыя дружыны супраць паўстанцаў.

Пасьля падзей 1831 года царскі ўрад пачаў праводзіць жорсткую палітыку русіфікацыі Беларусі. Было нават забаронена ўжываць назвы Беларусь і Літва, замест якіх быў прыдуманы казённа-афіцыйна тэрмін «Северо-Западный край». Сам Мураўёў неадназова заяўляў, што «край сей истинно русский». Губэрнатар вырашыў падлічыць канфэсійны склад жыхароў губэрні. 15 сьнежня 1831 года ён загадаў каталіцкаму і вуніяцкаму духоўнаму кіраўніцтву прадставіць сьпісы ўсіх культавых будынкаў, сьвятароў й манахаў. Калі сьпісы былі складзены, высьветлілася, што ў губэрні было 146 каталіцкіх і 355 вуніяцкіх храмаў. Такім чынам, большасьць насельніцтва складалі вуніяты. Але панучае становішча займаў каталіцкі касьцёл, да якога належыла дваранства і амаль усё адукаванае гамадзтва.

Мясцовая інтэлігенцыя ў той час была цалкам палянізаванай. Беларуская мова была выціснута з гарадоў і шляхецкіх фальваркаў у вясковыя ваколіцы.

**С. ТОКЦЬ, гісторык, М. Зэльва. (Працяг будзе).**

## *Архіў*

# 1919: ПРЫЙШЛІ ПАЛЯКІ

***У 1919 годзе ў сталіцы незалежнай Летувы была выдадзена кніжка К. Езавітава «Беларусы і палякі. Дакумэнты і факты з гісторыі акупацыі Беларусі палякамі ў 1918 і 1919 гадох». Апрача беларускай, яна была выдадзена таксама на украінскай, расейскай, летувіскай, француцкай, нямецкай і яўрэйскай мовах. Сярод зьмешчаных матэрыялаў таксама і дакумэнты Беларускай Народнай Рэспублікі: урадавыя заявы і ноты, рапарты службоўцаў. Значная частка кнігі адлюстроўвае падзеі 1918—19 гг. на Гарадзеншчыне, калі станаўленьне і мацаваньне тут ворганаў улады БНР штыхамі польскіх акупантаў было гвалтоўна перапынена, а гучныя заявы начальніка польскай дзяржавы Пілсудзкага «Вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі!», сталіся пачаткам 20-гадовага існаваньня «крэсаў усходніх», антыбеларускай палітыкі ў Заходняй Беларусі.***

***Выданьне даўно стала бібліяграфічнай рэдкасьцю, таму дакумэнт, які прапануем чытачам, падаецца ў перакладзе з паасобніка, выдадзенага па-расейску. Падрыхтоўка і пераклад Алесі СЁМУХІ зь Менску.***

***ДАКЛАД***

***падпаручніка Р. І. Казячага і падпаручніка Г. Я. Мышко, каторыя пабывалі ў турме і палоне ў палякаў за беларускую нацыянальную дзейнасьць, пра становішча арыштаваных палякамі беларускіх грамадзкіх дзеячаў.***

***Спадару Міністру Беларускіх справаў***

*Падпаручніка Рыгора Ігнатавіча Казячага, народжанага ў Гарадзенскай губэрніі і ўезьдзе, Скідзельскай воласьці, у вёсцы Ханевічы, праваслаўнага веравызнаньня;*

*Падпаручніка Георгія Якаўлевіча Мышко, народжанага ў Гарадзенскай губэрні і ўезьдзе, Скідзельскай воласьці, у вёсцы Гарошкі, праваслаўнага веравызнаньня.*

*Надыходзіла вясна 1919 году, а разам зь ёю насоўваліся на Гарадзеншчыну з аднаго боку бальшавікі, з другога — палякі.*

*Жудасныя часіны перажывала насельніцтва. Тыя, хто пабываў у Расеі, ведалі, што нясе бальшавізм іх Бацькаўшчыне,— абяздоленай нядаўняй вайной,— голад, поўную галечу, але прадбачылі і разумелі страшную пагрозу польскага засільля і прыгнёту.*

*Усе сьвядомыя работнікі, хто ўцёк на родную Гарадзеншчыну з савецкага выраю, яшчэ ў 1918 годзе пачалі арганізоўваць жыцьцё згаладалага пасьля беспрытульных бадзяньняў па чужыне люду. З дазволу нямецкіх уладаў, амаль паўсюдна на тэрыторыі колішніх воласьцяў узьніклі Валасныя Управы (камітэты), якія найперш пачалі, досыць танна, набываць у немцаў хлеб, насеньне, ратайскія прылады для даведзеных да жабрацтва бежанцаў. Асабліва ладна праца пайшла пасьля пераезду ў Гародню Беларускага Міністэрства на чале са спадаром Міністрам Язэпам Варонкам. Ува ўсіх зарадзілася спадзяваньне на нешта лепшае, упэўненасьць у сваіх сілах. Зьявілася газэта на роднай мове «Беларускі Народ». Выходзіла на дзьвюх мовах: беларускай і расейкай. Празь месяц у Горадні сталі выдавацца яшчэ чатыры беларускія газэты па-беларуску: «Бацькаўшчына», «Беларусь», «Зорка», «Родны край», адкрыліся школы, лякарні, каапэратывы... Гужам пацягнуліся ў Гордню, у сваё Міністэрства, беларускія дэпутацыі і дэлегацыі, каторыя шукалі ў сваім Урадзе супакою і падтрымкі ў бядзе, абароны ад засільля польскіх паноў, якія з надыходам польскіх войскаў на Гарадзеншчыну усё вышэй пачалі высоўваць свае галовы.*

*І вось наляцелі экзэкуцыйна-карныя атрады «пана Дамброўскага», расстрэльвалі за «бальшавізм» сьвядомых беларусаў. За імі йшла акупацыя.*

*Першыя атрады рэгулярнага польскага войска, што крочылі па Гарадзеншчыне, яшчэ хоць крыху бралі да ўвагі «самабытнасьць беларусаў» (многія начальнікі самі былі беларусы-каталікі), нават нейкі час не чапалі Камітэты. Але нахлынула з «конгрэсувкі» пільная польская жандармэрыя, і пачаліся арышты. Прыпомнілі кожнае слова, сказанае дзеячамі Гарадзеншчыны ў адрас Польшчы нават за нямецкім панаваньнем (шпіёнаў сярод «палякаў» аказалася ці мала), і ўсе паляцелі да «ганцля» (цёмны карцар ў турме — заўв. К. Е.). І толькі за тое, што людзі сапраўды задумаліся пра лёс Бацькаўшчыны, захацелі самастойна жыць у сябе дома.*

*Прыводзім гісторыю нашага арышту:*

*Дажджлівы красавіцкі вечар.*

*Спустошаная вайной бедная беларуская вёска. У вёску прыехалі тры фурманкі з новымі «заваёўнікамі» — польскімі жандарамі.*

*Беларусы бачылі на сваім вяку ці мала рознага начальства, высыпалі з хат, каб паглядзець і на гэта новае. Пацепваецца напаўразьдзеты галодны народ ад холаду і страху.*

*«Начальства» спынілася ў былога солтыса, а потым усім гужам, зь вінтоўкамі і рэвальверамі, пайшлі ў суправаджэньні солтыса ва ўказаную ім хату. Перад гэтым солтысу даюцца распараджэньні пра Фурманкі і чуюцца пагрозы:*

*«А ежэлі не дадзо, бэндзем стшэляць».*

*Але вось яны ўвайшлі.*

*«Ці тут жывуць Казячы Рыгор і Сямён?»*

*— Тут.*

*«Хто з вас быў настаўнік?»*

*— Я — (Рыгор Казячы).*

*«Вы арыштаваны. Зьбірайцеся з намі і зьбірайцеся як сьлед, бо няхутка вернецеся. І не забудзьцеся разьвітацца са сваякамі» (Самадавольны сьмех «паноў»).*

*Калі арыштаванага ўзялі пад варту, пачаўся вобыск. Паны жандары пры гэтым выяўляюць такое ўмельства і прадбачлівасьць, быццам увесь век кармілі-ся хлебам шпіцаляў.*

*— Шукаюць зброю, грошы — «яны вярнуліся з Расеі, і ў іх дужо пенёндзы».*

*Потым «картэж» з узмоцненай аховай рушыў (...)*

*Допыт.*

*Папярэдне адымаюць усе рэчы і грошы. «Каб не павесіліся»,— катэгарычна заяўляе пры гэтым старэйшы жандар.*

*Доўгая працэдура допыту пра паходжаньне, адукацыю, былую службу, знаёмых, а потым і самае галоўнае — палітыка.*

*«Вы былі Старшынёй Скідэльскага Валаснога Камітэта?»*

*— Так — я.*

*«Зь якога часу і да якога?»*

*— З І-га сьнежня 1918 г. да 10-га сакавіка 1919 г.*

*«Вы куплялі ў немцаў хлеб, бульбу і іншыя прадукты ў маёнтку Чэрлёна і Ліўна княгіні Друцка-Любецкай? І хто вам дапамагаў?»*

*— Так, я. Дапамагалі мне Урадавыя ворганы Беларусі ў Горадні.*

*«Колькі заплацілі?»*

*— 12.000 марак.*

*«Колькі было хлеба, бульбы і іншага?»*

*— Жыта да 4000 пудоў, бульбы да 15 000 пудоў, ячменю да 500 пудоў, сена да 1000 пудоў.*

*«Чаму вы гэта купілі, гэта ж дабро княгіні Друцка-Любецкай?»*

*— Калі немцы прадавалі, значыць, гэта іх дабро. Калі б не купіў я для галадаючых ўцекачоў,— усё раскупілі б спэкулянты.*

*«Дзе цяпер тыя больш як 20.000 рублёў» (скуль ведаюць?), «якія засталіся ў Камітэце пасьля заканчэньня хлебнай справы ў Чэрлёне? І як фармавалася гэтая сума?»*

*— Насельніцтва воласьці (ўцекачы) бралі свой хлеб па 10 рублёў за пуд з такім разьлікам, каб засталіся грошы на адкрыцьцё каапэратыва. А грошы засталіся ў людзей.*

*«У каго менавіта?».*

*— Не памятаю.*

*(Бедныя мазольныя грошы. Напэўна, архіў Камітэта быў знойдзены пільнымі віжамі і грошы сканфіскаваныя. Каб жа ж гэтага не было).*

*«Вы знаёмыя зь Беларускім Міністэрствам і Губэрнскай упра-вай?»*

*— Так, знаёмы.*

*«З кім менавіта?»*

*— З усімі.*

*«Што вы казалі на агульным сходзе ў воласьці, калі да вас з Горадні прыязджалі прадстаўнікі польскай дэмакратычнай партыі?»*

*— Я вітаў іх.*

*«А што вы гаварылі?»*

*— Не памятаю.*

*«Лепш адказвайце нам шчыра, бо можам саслаць ў такое месца, дзе вас «прымусяць» сказаць.*

*— Мне няма чаго вам сказаць і няма ў чым прызнавацца.*

*«Бальшавік!» — заяўляе жандар і адварочваецца.*

*«Як вы ацэньваеце тое, што палякі займаюць вашую Беларусь?»*

*— Хацелася б, каб маёй Бацькаўшчыне, Беларусі, пад Польшчаю жылося ня горш, чым за Мікалаем Раманавым.*

*Допыт скончаны.*

*Пратакол напісаны і падпісаны. Казячы адведзены ў мясцовую мураваную турму, прыстасаваную яшчэ немцамі (ў м. Скідэль).*

*Допыт наступнага арыштаванага, Мышко,— кароткі.*

*На пытаньне абвінавачанага:*

*— У чым вы мяне абвінавачваеце?—*

*Сказана:*

*«А прыгадайце: ці не гаварылі вы калі-небудзь што-небудзь?»*

*Допытны зьбянтэжаны...*

*— Што менавіта?*

*«А ці гаварылі вы што-небудзь пра прадстаўнікоў польскага дэмактарычнага Камітэта, калі яны на валасным сходзе знаёмілі народ з праграмай сваёй партыі?»*

*— Я вітаў пасланцоў партыі.*

*«Ці не называлі вы польскія войскі бандай, калі 1-ы Сувалкскі полк выходзіў з м. Скідэля на пазіцыю?»*

*— Не называў.*

*«Калі вы пазнаёміліся з Казячым?»*

*— Пасьля таго, як ён вярнуўся на Бацькаўшчыну з Расеі.*

*«Ён быў галоўны, а вы ягоны памочнік?»*

*— Сябрам Валаснога Камітэта не зьяўляюся і ня быў.*

*Пасьля гэтага жандарскі вахмістр пачаў зьедліва гаварыць, што ён, як зямляк, народжаны на Гарадзеншчыне, і не зьбіраецца закабаляць нікога, што ў г. Ваўкавыску можна разьлічваць на вызваленьне.*

*А ў гэты час у Скідэлі сабраліся прадстаўнікі ўсіх вёсак воласьці, і ўгаворвалі Начальніка Губэрнскай Паліцыі (польскага афіцэра) і Начальніка Акруговай паліцыі (князя Сьвятаполк-Мірскага), каторы ў той дзень чамусьці апынуўся ў м. Скідэлі, вызваліць арыштаваных пад парукі ўсёй воласьці, пры гэтым насельніцтва бралася адказваць за ўсё «гарбом і маёмасьцю». Але нічога не дапамагло.*

*Вечарам таго ж дня пад узмоцненай аховай мы былі адпраўлены ў г. Ваўкавыск. Разам з намі везьлі жаўнера 1-га Гарадзенскага Беларускага палка Ванюкевіча, каторы прыехаў у Скідэль да сваякоў і быў арыштаваны польскімі жандарамі. На станцыі Масты, ўбачыўшы беларускага жаўнера, польскія легіянеры выкрыквалі нешта пра Беларусь і беларусаў.*

*Аглядаючы формены галаўны ўбор Ванюкевіча, яны рагаталі:*

*«А пся крэв, не хцял працоваць в маёнтку, а хцял своє царство установіць!»*

*Жандар са свайго боку дадаў:*

*«І што гэта за Беларусь і беларусы? І чаго яны хочуць? — Ах, як цяжка нашай маладой Польшчы адраджацца! — У яе так многа ворагаў: і ўкраінцы, і літоўцы, і беларусы».*

*Але паступова банда сьцішэла і паснула. Заснулі і мы цяжкім сваім сном пасьля перажытых жахаў.*

**(Заканчэньне будзе).**

# БЕЛАРУС, ЯКІХ МАЛА

Памёр Міхась Ткачоў.

Нямала гадоў ён пражыў у Горадні, выдаў за гэты час выдатныя кніжкі «Абарончыя збудаваньні заходніх землякоў Беларусі XIV — XVI ст.» і «Замкі Беларусі». Але Міхась Ткачоў ня толькі пісаў кнігі, вучыў студэнтаў, ён не баяўся сам-адзін хадзіць у абкамаўскія габінэты, каб спрачацца, адстойваць ад разбурэньня гістарычныя помнікі Горадні.

Пазьней утварылася «Паходня», дзе любы гарадзенскі беларус мог як бы атрымаць глыток сьвежага паветра. Міхась Ткачоў з радасьцю прыйшоў у клюб і адразу зрабіўся яго бясспрэчным лідэрам, прэзідэнтам «Паходні». Першыя мітынгі, нелегальная беларуская прэса, стварэньне БНФ, адным з кіраўнікоў якога ён стаў,— усё гэта перажывалася намі ўсімі разам. Як за роднага чалавека непакоіліся, калі Міхася Аляксандравіча не жадалі дапусьціць да абароны доктарскай дысэртацыі й вельмі радаваліся, калі гэтая падзея нарэшце адбылася.

Ён быў першаадкрывальнікам. Менавіта дзякуючы яму мы даведваліся аб нашай слаўнай вайсковай гісторыі, аб выдатных замках, якія баранілі Беларусь ад агрэсараў з захаду і асабліва з усходу. Гэта ён называў сярэднявечную Беларусь краінай замкаў, абуджаючы ў нас гонар за свой край. Ён быў чалавекам магутнай энэргіі. Апроч навуковай, пэдагагічнай дзейнасьці, пасьпяваў рыхтаваць да выданьня новыя кнігі, пастаянна выступаў у друку, апантана адстойваючы нашыя сьвятыя сімвалы Бел-чырвона-белы сьцяг і Пагоню. Разам са сваімі студэнтамі аб´езьдзіў палову Беларусі, раскопваючы замчышчы і гарадзішчы. Яму належыць гонар адкрыцьця падмуркаў бацькоўскай сядзібы нашага нацыянальнага гэроя Кастуся Каліноўскага. Разам зь сябрамі ён жа адшукаў рэшткі пахаваньня апошняга караля Рэчы Паспалітай. Не здарма ж яго посьпехі выклікалі чорную зайздрасьць чыноўнікаў ад гісторыі зь яго калегаў па унівэрсітэце. Яны не жадалі яму прафэсарства, а ўжо прафэсару не далі загадваць кафедрай, усяляк імкнуліся выжыць яго з універсітэцкіх сьценаў.

І яшчэ адна разам яскравая й цёмная старонка была ў гарадзенскім жыцьці Міхася Ткачова. Колішнія выбары ў Вярхоўны Савет СССР. Сутыкнулі іх з абкамаўскім сакратаром-дэмагогам. Былі выкарыстаны ўсе сродкі, каб не дапусьціць Міхася Аляксандравіча ў ВС, самая неверагодная хлусьня пра яго распаўсюджвалася вусна й друкавана... Мы перажывалі за яго, але былі вельмі ўражаны, калі даведаліся аб выніках галасаваньня: не зважаючы на перашкоды за Ткачова тады аддалі свае галасы дзясяткі тысячаў гарадзенцаў і жыхароў раёна.

Потым Міхась Аляксандравіч выехаў у Менск, а неўзабаве ўтварылася Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, якую ён ачоліў. Ён імкнуўся аб´яднаць усе палітычныя сілы ў блёку «Новая Беларусь». На жаль, нашыя супрацоўнікі прызнаюць кампраміс толькі ў сацыяльных пытаньнях, усё нацыянальна-беларускае традыцыйна выклікае ў іх адно нянавісьць... Вялікая праца чакала М. Ткачова на ніве «Беларускай нацыянальнай энцыкляпэдыі»...

Міхася Ткачова ня стала. Пражыў ён 50 гадоў. 3-га лістапада ў Менску адбылося разьвітаньне зь ім у Беларускім доме літаратара. Сюды прыйшлі старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Ст. Шушкевіч, прадстаўнікі парляманцкай апазіцыі на чале з З. Пазьняком. Праважалі яго ў апошні шлях тысячы людзей. Пахавалі Міхася Ткачова на Маскоўскіх могілках недалёка ад магілы Уладзіміра Караткевіча.

Яшчэ пры жыцьці М. Ткачова было відавочна, што ён ня проста руплівец, а — постаць у новым беларускім Адраджэньні.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ.**



АЛЕСЬ ЧОБАТ

# ПРЭЗІДЭНТ

**ФАНТАСТЫЧНАЕ АПАВЯДАНЬНЕ**



ДОЖДЖ... Выматала гэтае сьвята. Што ж, старасьць, нічога ня зробіш. Гэта Ле Мартэн яшчэ грае ў тэніс, хоць яму семдзесят, як і мне. Крыху маладзейшы Омыльянюк, калі верыць шэфу бліжняй разьведкі, завёў новую бабу. Самы смак, трыццаць тры... Гэнерал скаліць зубы: — Мала не шаснастоўку... Мараль дэманструе... Хай дэманструе — ведаю, да каго сам скача ад дурной жонкі. На яго бліжнюю разьведку ў мяне яшчэ бліжэйшая. Гэтыя маладыя роднага бацьку здадуць за вышэйшую прыступку, ня тое, што шэфа любімага...

Спіну круціць, халера... І чаго было ўзаконьваць тыя ўрачыстасьці пад Воршай?! Музэй будаваць, пляц... Выйшаў бы цяпер насупраць парляманту праз парк, як некалі Ахрэм Сакалоў, памахаў ручкай. Дык не! У верталёт і ўсё, будзь здароў... Прэзідэнт суверэннай Беларусі ўжо дзесяты год адзначае вялікую перамогу над маскалямі разам зь вялікім беларускім народам... Патрыёты некалі падбілі, пена з вуснаў ляцела: моладзь, моладзь, выхоўваць моладзь...

Не, так толку ня будзе. Тэкс, спадар прэзідэнт, устаць з крэсла, да шафы, ключыкам — чык!.. Дзе тут «Пліска», з асьпіранцкіх гадоў любімая, сяброўка верная, незаводная? І чарачку, ох, добра пайшла... І як гэтыя нэафіты хлешчуць тую «Белавежскую»?! Здурэць можна — з такім народам жыць... Гнулі карк перад кожнай сволаччу пяцьсот гадоў, цяпер акрыялі троху, то самі ў паны лезуць. «Айчына» пра Вільню, «Народка» пра яе ж, дваццаць пяць гадоў Вільня ды Вільня... Браткі-летувісы брыкаліся калісь, да Гервятаў дзесяць гадоў езьдзілі, «Трыс дзівінірыс» скрынкамі цякла, лялечкі як на падбор. Цяпер рукой махнулі — дарэмна зьвязвацца! Пачне дурань Богу маліцца, адаб´е ілбом Сівабародаму... Пішуць вунь самі: Смаленск, Смаленск, спрабуюць, так сказаць, толькі на той бок павярнуць... Нашу прафэсуру павернеш! Думаюць, што я гэтым краем кірую, дурачкі, гярai...

Да, мой дарагі, натварыў ты дзялоў, наламаў людзей... Зьгніў той рэжым, ляснуў, пакінуў табе адзін суцэльны бардак. Кожны крычыць: «Держите вора!» — а сам хоць дошку, але каб сьцягнуць! Што страшна, ведаў, але як кончылася дурата з той «перестройкой», выбарамі, рэфэрэндумамі, адным і другім, дыпляматамі, рэвэрансамі ды кадравай гарачкай — душа потам халодным пакрылася... Няма людзей. Ніякіх — ні маскалёў, ні пшэкаў, ні сваіх дуракоў. Першым пасадзіў таго палкоўніка, на каго векапомныя «Дзяды» сьпіхнулі, што цяпер па ўсіх падручніках расьпісаныя. Ох, як зразумелі! Як спраўна зразумелі — што толькі чужых, што будзе помсьціць, што яму «адна мова дурная» ў галаве... Бараны! Як толькі панабеглі спрытнюгі, вочы гараць ад адданасьці, сам аблізваецца — дарвуся! — тут і пайшла работа. Ёсьць закон? Саджай! Край? Саджай! Свой, чужы? Саджай!.. Цырк! Самі сябе здавалі, беглі, несьлі, пісалі... Апамяталіся потым — пайшлі камісіі, Стразбург, Хэльсінкі, вусач Шынкароў перад Крамлём роў «праваслаўным»:— Ліцьвяк горшы за Гітлера! Нашых братоў здраднікі-беларусы забіваюць, душаць у шахтах!.. А браты як на падбор: дырэктаркі, гэнеральчыкі, банкірчыкі — і ўпалову гэтак кроў перамешаная, што канцоў не знайсьці! Межы пад гэтую «барацьбу з карупцыяй» перакрылі, вой быў з абодвух бакоў — страх! Браты, так вашу... Мала да страляніны не дайшло, дэсантнікі бунтаваць спрабавалі, кроў блакітная... Ваеннае становішча крыкам праз брахуноў парляманцкіх прабіваў, мокры выскачыў адтуль а другой ночы... Тады ж сэрца пачуў першы раз... Прэзідэнт дзяржавы — жывы нябожчык... А Эўропе добра глотку заткнулі: прышліце назіральнікаў, ня хочам крыві, спалохаліся агрэсыі! Паверылі, лібэралы, маладых хлопчыкаў любячыя, паверылі ў здраду, у агрэсію, ува ўсё паверылі... Раман тады сабе кар´еру й зрабіў, тады й пачаў на шэфа разьведкі падымацца. А лоўка ён з тымі дэсантнікамі! Глядзець за ім, не забываць — яшчэ тая сволач...

НОЧ на вуліцы. Верасень нейкі халодны. Любіў некалі восень.. Як жыцьцё маё, тая восень — ні канца, ні пачатку... Ну, ладна. Пара спаць. Цьфу, толькі падумаеш — і тэлефон!.. «Спадар прэзідэнт! — раздражнёна-бодры голас дэжурнага ахвіцэра.— Прэідэнт Францыі...» Ну, вот... Спартсмэн чортаў, ня мог да заўтра. Зараз пачне зь віншаваньняў, трапло разьвядзе... Так і ёсьць. Добра, як казалі ў нас у інстытуце, пакуль ты п...— я адпачну... Антуан, першы прыяцель на той бок ад Буга. Зьдзівіўся ад першай сустрэчы — дзікун з Усходу сам па-француззку гаворыць і таннага мяса пазычыць ня просіць, як шэф «загадочной России» ды «герой августовской революции»! — так і ходзіць зьдзіўлены. З гаспадаркі яго шмат ня выцісьнеш; тут немцы, немцы, там гешэфт, там «дранг нах Остэн!», там усё ясна... Але патрэбны. Да палітыкі французы нюх маюць, ножку падставіць любяць, уся наша разьведка мне столькі не аддае, як часам Ле Мартэн пад каньячок... Гавары, Антуан, хвалі. Мы ім пад Воршай наклалі, вы пад Аустэрліцам. Далі дзікім азіяцкім варварам два вялікіх эўрапэйскіх народы... У Парыжы тыя дзікуны хоць тры гады прастаялі, а ў нас два стагодзьдзі. О-хо-хо, якая дрань тая палітыка зь гісторыяй разам... Ну, бывай, бывай, спадар прэзідэнт. Дзякуй табе за запрашэньне, ведаеш, што люблю я Брэтань, дагэтуль нейкае дзікунства ў ёй яшчэ ёсьць, нешта жывое...

Ну, яшчэ адну! За Брэтань!.. Пісакаў пасылаў у каманьдзіроўкі казённым коштам, ад баб і дзяцей грошы адрываў... Каб напісалі, што бачылі, што край другі такі ж прыгожы, як твой. Людзі кругом — адно г... Дзе там! Па крамах, па шмотках, потым прыедзе й давай пра супольныя карані ці пра эканоміку, вопыт пераказваць... Шмотачнікі! Мужыкі й шляхта змужычаная! Як той гарадзенскі хлопец сьпяваў, «жлобская нацыя»! А яны, дурні, зь яго адну «хамскую ўладу» вывучылі... Улада, бачыш, вінаватая, не клапаціцца пра іх, гаворыць адно, робіць другое. «Не прислушивается к мнению профсоюзов и трудовых коллективов!» — крычаў адзін з апошніх трыбухоў пры гальштуках, да якіх дабром так і не дайшло. У Салігорску цяпер, валюту капае...

Дурак! Прафсаюзы з калектывамі хочуць менш рабіць і больш зарабляць! Так — як ты, я і ўсе! І калі ўлада будзе добранькай ды пачне рабіць тое, што абяцала, то праз тры месяцы пачнецца бардак, праз паўгода голад, праз год фініш... І гісторыкі потым будуць гадаць: ах, ах, такі край загінуў — і невядома, чаму! Ім ніколі невядома — чаму. Сам гісторыкам быў, пакуль не зразумеў, чаму. Камуністы, якія ўжо добранькія былі — зарабляў прафэсар больш за пана, стаў менш за фурмана; было дванаццаць рабочых разрадаў, зрабілі чацьвёрты, пяты і шосты; мог дырэктар даць інжынеру кватэру без чаргі па закону, змог толькі па-за законам і не інжынеру, а ўласнай бл... Усе сталі роўныя. У кожнага полачка — як у савецкім пляцкартным вагоне! «І што жа? — як гаварыў мой любімы палітык Мікалай Іванавіч Дземяньцей.— А нічаво!..» А дарэчы, дзе «мяньцей» цяпер сам? А ўсё там!.. За што яны не любілі тых камуністаў — чорт яго знае? Я сам — за край, за маму, за дзеда, за злосьць ад бясьсільля перад тупасьцю й бездарамі... А яны — за што? За сваю распусту, вот за што...

Цяпер Беларусь палюбілі. На вуліцу ня выходжу — ахова хіхікае, маўляў, стары гаспадар стаў... А кругом — такая трасянка, маць вашу! Каторы год дзяўбу, душу, міністраў ганяю... А Шымкевіч казаў: унучка прыйдзе са школы й пытае: «Дзед, а чаму настаўніцы такія сьмешныя? З намі па-нашаму гавораць, а паміж сабой — па-расейску й шэптам, каб мы ня чулі; яны для Расеі шпіёняць, а, дзед?!»... І я яшчэ завостры для забужанскіх лібэралаў! Дваццаць гадоў прайшло! Пакаленьне вырасла! «І што жа? А нічаво!...».

ОХ, Эўропа... Самі ж, браткі-немцы, секлі палякаў за хоць адно слоўка па-польску. Самі ж, браткі-палякі, вязалі па турмах беларусаў за «хамскую гвару». Прафэсара Тарашкевіча штурхалі так, што дзядзька да камунякаў дакаціўся — ісьці ня было куды! З Максіма Танка клясыка «савецкай літаратуры» зрабілі, прабач, Пане Божа! А нам цяпер няможна, ня тыя часы... Расейка бедная, нышчасьненькая, крывёй татарскай і чачэнскай зь віны, натуральна, саміх татараў і чачэнцаў, залітая... Вы, кажа, эўрапэйскі народ, беларусы. Вы азіяцкую Расею павінны цяпер па-эўрапэйску шкадаваць і «входить в положение русскоязычного населения»... Зрэшты, што я разышоўся? Учора свой жа, Косьцік Круціцкі зайшоў з вынаходніцтвам сваім філязоўскім: кажа, Антон, усё мінецца, сьвет прападзе, а «русскоязычные», кажа, застануцца... Дасьціпнік сусьветнай славы, тваю..! Ведаў, на якім кангрэсе зь якой бабай спаць, сусьветнасьць набыў...

Ды ўсё вечнае! Толькі зьвер і чалавек гіне. А ўсе гэтыя нацыі, ідэі, гэапалітыка... Усё вечнае, нічога не мяняецца пад гэтым небам. Памятаю, палякі былі галаву паднялі... О-о... «Мы тут от дзяда-прадзяда, польска вяра, польскі косьцюл...». Бегалі паперкі пісаць, баі баіць, з розуму выжыўшых крэсавякаў з эміграцыі сюды цягалі, з АК-оўцамі насіліся...«І што жа? А нічаво!..». Дур усё і мана. Як кажуць, было ды зьнікла... Гітлер плюс Сталін — і няма ні палякаў, ні габрэяў, ні «крэсаў». А чаго няма, таго ня будзе. Сьмех тады быў! «Ту бэньдзе Польска, поневаж так было пшэд войном!..» Эх, дзяды-прадзяды... Прадала вас пані Варшава: за транзыт, за гандаль, за буйныя заказы на гдыньскі флёт... Гэта й без мяне зрабілі, Францавіч з кампаніяй... Праўда, беластоцкіх мала не аддалі. Ну, ды тыя выжылі — у тых усё ж зямля была ды пару галоваў з мазгамі... А тут — колхозьніцы крэсові! Палякі, псякрэв, тфу!..

Ну і чаго было залупацца?! Не хацелі са мной, то Стась-лідэр такі ж каталік... Дзе яны ў гэтым бальшавіцка-праваслаўным краі маглі яшчэ мець такую халяву?! Не! Панская кроў, дурная парода... Сядзяць у сваёй канторы, радзяцца: «Но то тшэба ісьць до хамув і потшэбоваць! Тшэба вальчыць!...». На бале вам вальчыць, мае людзі тады ўжо ўсю інфармацыю мелі, наіўнячкі... Прасралі Рэч Паспалітую што «пеРвшу», што «другу», дык захацелі такую ж самую «тшэцю»! «Поляк то пан, а не поляк то хам!»... Усё, няма палякаў: трыццаць сем тысячаў па апошняму перапісу... А цяпер можна — касьцёл, школу, часопіс графаманам! Хай цешацца яны, варшавякі ды ўся Эўропа... Вот вам за дзеда, за ўсіх нас, вот!

Не-е! Сапраўды прыйдзецца падтрымаць таго пісарчука з Ашмянаў, як прозьвішча, з галавы вылецела, каторы па-навуковаму даказвае, што не палякі тут, а крэсавякі... Хоць і ненавучна, але для пачатку хай будзе, потым паправяць. У той Варшаве людзі як людзі, а тут жменька нейкая, а гадкія, крыклівыя! Паляк — гэта фантазёр. Рамантык, вандраўнік. Па іх пульс Эўропы вымяраць можна... А тут, на крэсах, сядзе, як калодка, на свае соткі-гэктары, на крэсла за бюркам — і сядзіць, грошы зьбірае! Усё з касьцёла смакталі, усё смакталі...

Кардынал Вінсэнціні ўчора тэлефанаваў — кажа, давайце адносіны нармалізуем. Ну, нармалізуем, зразумела. Дваццаць гадоў клір на валынцы граў. Адзін паляк памёр, другі сеў, такі ж сам. Нема Бялорусі і юж! Нічога, няма дык няма — няма Беларусі, значыць, і ксяндзоў польскіх няма! І прамаўчалі ж, пуп зямлі. Праглынулі, бо неамыльныя, бязгрэшныя, дзе ж перад усім сьветам выставіць, што самых хітрых і даўніх дыпляматаў нейкія хамы кругом пальца абвялі! А мы без апекі не засталіся: харваты, вайной папаленыя, пацягнуліся, чэхі, славакі, летувісы. Абы грошы плацілі... Богу сваё, а чалавеку сваё.

ЧОРТ, сьвітае ўжо... Так і не заснуў. Трэба а восьмай доктара Каца клікаць, хай гляне ціск, сэрца, соннае што дасьць лёгкае. Трэба пажыць. Будзе язык за зубы чапляць, як у Брэжнева — не выходзіць на людзі ды ўсё! Хай пагавораць, паплятуць анэкдоты... А пажыць трэба. Разьведка адны гадасьці шле. Немцы на Шлёнску ды ў Каралеўцу ходзяць, як у сябе дома. Шынкарова дзеці Пскоў і Смаленск адбудавалі на цацку, абадралі ўсё да Урала, экскурсантаў цягаюць з-пад Дняпра, папы адзін да другога праз мяжу шастаюць: ужо ня меншыя браты, але роўныя. Што хрэн, што рэдзька... Вайна будзе. Горш за вайну. Называецца, грамадзяне вольнага сьвету: жыві, дзе хочаш, межаў няма, пашпартоў няма, арміі няма, агульныя паліцэйскія сілы... Рай! І нашы дурачкі маладыя: нацыя адрадзілася, мова жыве, культура адна з багацейшых у Эўропе!.. Дурні! Нацыя жыве, калі круціцца, упіраецца, некага баіцца, кагось ненавідзіць... Татары казалі: лагодны вой — мёртвы вой. Нічога не мяняецца... Кацярына і Фрыдрых, Гарчакоў і Бісмарк, Рыбэнтроп і Молатаў, Коль і Гарбачоў, Шынкароў і Райтнэр... Германія і Расея. Азія і Эўропа. І мы паміж імі...

Уставай, спадар прэзідэнт. Зараз сакратар, потым прыём. Потым, здаецца, паездка ў другую брыгаду, вечарам міністр замежных справаў... Жыцьцё...

**Жнівень, 1992 год.**

